І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** Кастрычнік 2014

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну**

## Гомельскія навінкі №33 - 7 гадоў у гумне!




**Слоган хакейнага «Дынама» — «Верым! Можам! Пераможам!», а ў баскетбалістаў «Цмокі-Мінск» — усё па-беларуску**
стар. 4

**Муж застрэліў жонку ў першую шлюбную ноч за тое, што яна курыла**
стар. 3

**Банда «пажарнікаў» у Гомелі здзейсніла новыя злачынствы**
стар. 7

# Жыхар Гомеля учыніў разбой у дзвюх кавярнях

***По падазрэнні ва ўчыненні разбою ў дзвюх кавярнях у Рэчыцкім раёне і Гомелі затрыманы 37-гадовы жыхар абласнога цэнтра.***

Як паведаміў афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, 21 кастрычніка прыблізна ў 19.00 наведвальнік прыдарожнай кавярні ў Рэчыцкім раёне, пагражаючы жанчыне-бармену пнеўматычным пісталетам, завалодаў грашовай выручкай і пачкам цыгарэт. Кошт выкрадзенага склаў прыблізна 1,2 млн рублёў.

Пасля гэтага падазроны некаторы час хаваўся ў лясным масіве. Затым на спадарожным аўтамабілі даехаў да Гомеля, патэлефанаваў знаёмаму і прапанаваў яму выпіць у кавярні.

Прыкладна а першай гадзіне ночы, калі прыяцель зламысніка і іншыя наведвальнікі пакінулі піцейную ўстанову, падазроны паспрабаваў паўтарыць сцэнарый папярэдняга разбою. Аднак работніца кавярні аказала нецвярозаму наведвальніку актыўнае супраціўленне і націснула кнопку трывожнай сігналізацыі, што дазволіла супрацоўнікам міліцыі ў кароткія тэрміны яго затрымаць. Пры асабістым аглядзе ў яго быў знойдзены і канфіскаваны пнеўматычны пісталет.

Распачатая крымінальная справа.

*БелаПАН*




# Цукеркі з утрыманнем наркотыкаў канфіскаваныя ў жыхара Мазыра

***Цукеркі з утрыманнем наркотыкаў канфіскаваныя ў 19-гадовага жыхара Мазыра, паведамілі ў аддзяленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гомельскага аблвыканкама.***

«У поле зроку супрацоўнікаў Мазырскага РАУС трапіў мясцовы 19-гадовы жыхар, у якога было знойдзена і канфіскавана 33 г шакаладных цукерак, якія ўтрымліваюць у сваім складзе наркатычныя рэчывы», — распавялі ва УУС. Цяпер супрацоўнікі праваахоўных органаў выяўляюць крыніцу паступлення названых рэчываў.

Усяго з пачатку года на тэрыторыі Мазырскага раёна выяўлена 85 злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам наркотыкаў.

*БелТА*

# Педафіл пранік у дзіцячы лагер пад Жлобінам і спрабаваў здзейсніць распусныя дзеянні над сямігадовымі

***Невядомы ноччу пранік у адзін з карпусоў аздараўленчага цэнтра недалёка ад Жлобіна і паспрабаваў здзейсніць распусныя дзеянні над сямігадовымі дзецьмі, паведамляе прэс-служба гомельскай міліцыі.***

На крык прыбеглі выхавацелькі, але затрымаць нікога не ўдалося. Следчым трэба высветліць, якім чынам педафіл змог прабрацца ў лагер. Складзены фотаробат, распачата крымінальная справа.

*uvd.gomel.by*

# Муж застрэліў жонку ў першую шлюбную ноч за тое, што яна курыла

***Жыхар Буда-Кашалёва асуджаны да 14 гадоў пазбаўлення волі за забойства жонкі з-за курэння, паведамілі ў пракуратуры Гомельскай вобласці.***

Трагедыя адбылася ў першую шлюбную ноч. Пара, якая да гэтага жыла ў грамадзянскім саюзе каля дзесяці гадоў, вырашыла ўзаконіць свае адносіны. На вяселле запрасілі родных і блізкіх.

Калі госці разышліся, паміж мужам і жонкай распачалася сварка. Муж пабачыў жонку з цыгарэтай, хоць да гэтага яны дамовіліся, што яна кіне паліць. Мужчына схапіўся за стрэльбу. Адзіны стрэл стаў смяротным для яго жонкі. Пасля гэтага ён паспрабаваў скончыць жыццё самагубствам, засунуўшы ў рот ствол стрэльбы і націснуўшы на курок. Аднак куля засела ў паднябенні. Медыкам удалося яго выратаваць.

У Буда-Кашалёва адбылося выязное пасяджэнне абласнога суда. Абвінавачаны прыгавораны да 14 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Прысуд не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

*БелТА*



# Украінскі фанат: 6 чалавек нашых вывезлі пад Гомель і адлупцавалі

***Прадстаўнік дынамаўскіх ультрас Віталь распавёў Football.ua аб тым, як і за што затрымалі ўкраінскіх фанатаў у Беларусі.***

— Нашы СМІ паведамляюць, што ўсіх затрыманых беларуская міліцыя адпусціла…

— Здаецца, так і ёсць. Прынамсі, наш консул яшчэ раз аб'ехаў усе Мінскія РАУС і нікога з нашых там ужо не знайшоў.

— За што затрымалі на мяжы, пры ўездзе?

— Ну, не проста затрымалі, а некаторых нават не пусцілі далей. У прыватнасці (журналіста) Аляксандра Зазулю з-за стыкераў.

— Дарэчы, Аляксандр Зазуля напярэдадні выезду напісаў у сваім Facebook «вязем масу патрыятычных стыкераў»…

— Ну, вось з-за іх і не пусцілі (па інфармацыі Football.ua, Аляксандра не пусцілі ў Беларусь і забаранілі ўезд на тры гады).

— А пасля гульні, якія прэтэнзіі да нашых былі?

— Афіцыйна — «за нецэнзурную лексіку». Хоць зразумела, што гэта ўсё… Да прыкладу, аднаго хлопца са Стрыя ўзялі быццам бы за фаеры, хоць ён увесь час быў каля мяне і фаера ў яго дакладна не было. Зразумела, што прычынай была ў цэлым тая атмасфера, якую мы стварылі на матчы: нашы зарады, банеры…

— Перавышэнне службовых абавязкаў пры затрыманні прысутнічала?

— Частку нашых хлопцаў, шэсць чалавек, якіх «бралі» ў Мінску, потым перадалі ў Гомель, дзе мясцовая міліцыя таксама вырашыла праявіць стараннасць і са словамі «Тут вам не сталіца, а калгас» вывезлі ў поле і адлупцавалі. Прычым, там былі ў асноўным маладыя хлопцы, самы старэйшы — 22 гады. З іншага боку, з тымі хлопцамі (12 чалавек), якіх прымалі ў Барысаве, абыходзіліся ветліва.

— Якое ўражанне зрабілі беларускія фанаты?

— Выдатныя хлопцы! Дзякуй ім за прыём і дапамогу. Вельмі рады, што ў такіх складаных умовах у іх атрымліваецца заставацца на рэдкасць адэкватнымі.

— Распытвалі пра сітуацыю ў нашай краіне, пра АТА, у прыватнасці?

— Так, яны ў курсе. У іх у пашане нашы адэкватныя інтэрнэт-рэсурсы. Дарэчы, распавядалі, што калі падчас падзей на Майдане яны вывесели на матчы банер «Слава Украіне», то іх таксама пасля матчу арыштоўвалі, накладвалі штрафы.

— Як вырашылася сітуацыя?

— Шмат дапамагаў консул, які быў на судзе і потым вывозіў частку фанаў на сваёй машыне, пасольства наша паўдзельнічала. Але ў выніку ўсё вырашылася, я так разумею, на вышэйшым узроўні.

*"Наша Ніва"*

ГумНо СПАРТЫУНАЕ

# Слоган хакейнага «Дынама» — «Верым! Можам! Пераможам!», а ў баскетбалістаў «Цмокі-Мінск» — усё па-беларуску

***Абодва клюбы выступаюць на «Мінск-Арэне» і абодва прадстаўляюць Беларусь у міжнародных чэмпіянатах. Ці атрымоўваецца ў іх годна прэзэнтаваць беларускую мову і культуру перад замежнымі заўзятарамі? Сёньня пагаворым аб Хакейным клюбе «Дынама-Мінск», які гуляе ў Кантынэнтальнай хакейнай лізе, і Баскетбольным клюбе «Цмокі-Мінск», які выступае ў Адзінай лізе ВТБ, Эўрачэленджы і Чэмпіянаце Беларусі.***

***ХК «Дынама-Мінск»***

Вось што распавёў аб прасоўваньні беларускай мовы і культуры генэральны дырэктар ХК «Дынама-Мінск» Максім Суботкін:

«Хакейны клюб ужо сем сэзонаў запар з годнасьцю прадстаўляе Рэспубліку Беларусь на міжнароднай арэне — у КХЛ. На працягу гэтага часу мы ўвесь час актыўна прасоўваем беларускую мову і культуру на прасторы КХЛ, якая ўключае, апрача Беларусі, Расею, Казахстан, Латвію, Славаччыну, Харватыю і Фінляндыю. Сярод захадаў па падтрымцы беларускай мовы, якія робяцца нашым клюбам, я б вылучыў стварэньне афіцыйнага гімну ХК «Дынама-Мінск» гуртом «Палац», правядзеньне прэс-канфэрэнцыяў з удзелам галоўных трэнэраў па-беларуску, існаваньне на форуме клюбу беларускамоўнай галінкі «Спытай прэс-службу», якая зьяўляецца афіцыйным каналам зваротнай сувязі з заўзятарамі.

Таксама хачу зьвярнуць Вашую ўвагу, што на хатніх гульнях клюбу рэгулярна гучыць беларуская музыка ад «Трох чарапахаў» N.R.M., якая зьяўляецца неафіцыйным гімнам фан-сэктару ByZONE, да «Мая краіна — Беларусь» гурту Bez Bileta.

Дарэчы, адным з найбольш выкарыстоўваемых заўзятарамі «Дынама-Мінск» лёзунгаў ёсьць беларускамоўны «Верым! Можам! Пераможам!»

Як заўзятар, які ня раз бываў на гульнях дынамаўцаў, магу пацьвердзіць словы генэральнага дырэктара — усё апісанае вышэй сапраўды адпавядае рэчаіснасьці. І гэта вельмі ўсьцешвае, бо я, напрыклад, ужо гадоў восем ня меў магчымасьці слухаць N.R.M. зь Лявонам Вольскім і безь яго на вядучых канцэртных пляцоўках Беларусі, а тут гэты гурт можа чуць да 15 тысяч чалавек адначасова, хоць і ў выкананьні адданых фанатаў, але ўсё роўна ад душы і сэрца. А з гімнам у выкананьні «Палацу» наагул файная ідэя.

Далей Максім Суботкін дадае: «Сярод наступных пляну клюбу, зьвязаных з выкарыстаньнем роднай мовы, можна прыгадаць хуткі выхад у сьвет сэрыі банэраў „Каманда тваёй краіны/Каманда твайго горада“, якія неўзабаве ўпрыгожаць Менск і іншыя гарады Беларусі».

Гэта таксама добрая задумка, бо ў мінулыя гады гэтыя банэры сапраўды шырока разьмяшчаліся па ўсёй Беларусі, але надпісы былі выкананы па-руску. Спадзяюся, хутка мы іх сапраўды пабачым на вуліцах нашых гарадоў. Але ня можа быць заўжды ўсё добра і гладка, і гэта пацьвярджае генэральны дырэктар:

«Што тычыцца іншых Вашых прапановаў наконт выкарыстаньня беларускай мовы, то, на жаль, не заўжды яны выканальныя: шмат аспэктаў, такіх, напрыклад, як абвесткі на арэне і надпісы на форме, рэгулююцца наўпрост рэглямэнтам КХЛ».

| Што кажа беларус | Што чуе рускі | Як зразумець |
|---|---|---|
| Прывітанне | Привет Таня | Привет |
| Ты маеш рацыю | У тебя есть рация? | Ты прав |
| У мяне справы | У меня справа | У меня дела |
| Як ты? | Яхты | Как ты? |

З аднаго боку пагаджуся з Максімам Суботкіным — сапраўды, рэглямэнт КХЛ як міжнароднай лігі даволі сур’ёзна расьпісаны і патрабаваньні павінны працаваць для ўсіх, хто дабраахвотна ў гэту лігу ўступіў. Тым ня менш, выкарыстаньне беларускай мовы на форме хакеістаў магчыма і пры ўмове выкарыстаньня лацінскага алфавіту — для гэтага дастаткова выкарыстоўваць беларускую лацінку. Тут і ваўкі з КХЛ будуць сытыя, і беларуская мова будзе выкары-

стоўвацца.

Што тычыцца абвестак на арэне, то мне даводзілася быць на арэнах рыскага «Дынама» і фінскага «Ёкерыту», якія таксама гуляюць у КХЛ, і там фармат абвестак наступны: нацыянальная мова, латыская ці фінская адпаведна, а затым пераклад на ангельскую. Думаю, на арэнах клюбаў са Славаччыны, Харватыі і Казахстану, што выступаюць у КХЛ, сытуацыя аналягічная. І лягічная з усіх бакоў. Таму выкарыстоўваць пры абвестках на «Мінск-Арэне» беларускую і ангельскую мову, замест рускай, цалкам магчыма. Неабходна прыняць валявое рашэньне і пачаць, а дыктар, упэўнены, справіцца і ня будзе ў яго праблемы замест «Шайбу забросил» сказаць «Шайбу закінуў».

Тая ж сытуацыя і з мовай на афіцыйным сайце. Сайт узгаданага рыскага аднаклюбніка мае тры моўныя вэрсіі: латыскую, расейскую і ангельскую, як і сайт «Ёкерыта». Прычым у фінаў галоўнай і асноўнай мовай зьяўляецца, натуральна, фінская, а расейскамоўная і англамоўная вэрсіі ўтрымліваюць толькі інфармацыю, як набыць на гульню квіткі. Мне ўяўляецца, што і зубры могуць сабе такое дазволіць. А калі не хапае рэсурсу на латыскі варыянт, то можна і фінскім скарыстацца, і зрабіць асноўнай беларускамоўную вэрсію сайту.

Мяркуючы па цікавым і пісьменным адказе, які падрыхтаваў кіраўнік прэс-службы ХК «Дынама-Мінск» Раман Стронгін, з валоданьнем беларускай мовай у супрацоўнікаў клюбу поўны парадак. Зараз жа афіцыйны сайт дынамаўцаў утрымлівае толькі расейскамоўную і англамоўную вэрсію. Такім чынам, рэглямэнт КХЛ дазваляе і больш шырокае выкарыстаньне беларускай мовы, проста трэба ўмець ім карыстацца і жадаць гэтага.

Свой ліст Максім Суботкін скончвае на аптымістычнай ноце:

«Са свайго боку магу Вас запэўніць: «ХК Дынама-Мінск» і надалей працягне актыўна спрыяць разьвіцьцю і прасоўваньню беларускай мовы і культуры».

Не сумняваюся, што «Дынама» сапраўды выканае сваё абяцаньне, бо ўжо зараз клюб зрабіў для беларускай мовы столькі, колькі не зрабіў ніводзін клюб беларускага нацыянальнага чэмпіянату па хакеі. Дакладней, у нацыянальным першынстве для разьвіцьця беларускай мовы і культуры ніводзін хакейны клюб не зрабіў нічога.

Тут я магу цалкам пагадзіцца са словамі генэральнага мэнэджэра ХК «Дынама-Мінск», былога галоўнага рэдактара спартовай газэты «Прэсбол» Уладзіміра Беражкова, што беларускі хакей — гэта балота. Вядома, ён казаў гэта аб якасьці чэмпіянату, але гэта справядліва і ў пляне стану беларускай мовы і культуры ў ім.

***БК «Цмокі-Мінск»***

Зараз пагледзім, якая сытуацыя зь беларускай мовай і культурай у прадстаўніка беларускага баскетболу на міжнароднай арэне.

Генэральны дырэктар БК «Цмокі-Мінск» Юры Шакола адказаў наступнае:

«Вы, безумоўна, ведаеце, што сымбалем клюбу пасьля рэбрэндынгу ў 2012 годзе стаў герой беларускага эпасу, і гэта цалкам адлюстроўвае нашу пазыцыю па прапагандзе нацыянальнай спадчыны. „Цмокі-Мінск“ лічаць прынцыповым ужываньне беларускай мовы ў сваёй маркетынгавай і піяр-дзейнасьці. Спартовыя заўзятары ведаюць, што ўсё аўдыёвізуальнае суправаджэньне матчаў на „Мінск-Арэне“ арганізоўваецца намі на роднай мове, як і ўся друкаваная прадукцыя (афішы, праграмкі), атрыбутыка (ад магнітаў да маек і баек).

Таксама адзначым, што інфармацыйнае суправаджэньне жыцьця каманды рэгулярна вядзецца на беларускай мове — афіцыйны твітар @TsmokiMinsk, афіцыйныя старонкі клюбу ў сацыяльных сетках апэратыўна паведамляюць навіны, якія тычацца калектыву. Прома-ролікі, што анансуюць матчы ў Эўрачэленджы і Адзінай лізе ВТБ, таксама выходзяць на беларускай мове, гэтак жа, як і радыё- і інтэрнэт-трансьляцыі хатніх матчаў на сайце клюбу».

Такую прынцыповую і пасьлядоўную пазыцыю можна толькі вітаць і ганарыцца, што ў клюбе працуюць людзі, якія цьвёрда стаяць на пазыцыях беларушчыны. Тут можна ўзгадаць і ХК «Дынама», які пакуль не арганізоўвае аўдыёвізуальнае суправаджэньне на арэне (а гуляюць абодва клюбы на «Мінск-Арэне») па-беларуску. Думаю і рэглямэнты ў міжнародных турнірах «Цмокаў» ня менш жорсткія, чым у КХЛ, але яны магчымасьць ужываньня роднай мовы знайшлі. Усьцешвае выкананьне друкаванай прадукцыі па-беларуску і асабліва вядзеньне па-беларуску сацыяльных сетак.

Падзяліўся генэральны дырэктар і тым, як клюб ангажуе ў беларускую культуру рускамоўных заўзятараў:

«Рацыянальная маркетынгавая палітыка спартовага клюбу ва ўмовах Беларусі дыктуе неабходнасьць улічваць інтарэсы пераважнай рускамоўнай часткі аўдыторыі. Мы аднолькава старанна

## Слоган хакейнага «Дынама» — «Верым! Можам! Пераможам!», а ў баскетбалістаў «Цмокі-Мінск» — усё па-беларуску. Працяг

імкнемся як ужываць беларускую мову ў працы, так і пашыраць колькасьць рускамоўных прыхільнікаў клюбу. Такім чынам нашы небеларускамоўныя заўзятары атрымліваюцца ў складзе нашай агульнай аудыторыі, на якую накіроўваюцца намаганні клюбу па прапагандзе нацыянальных каштоўнасьцяў».

Але і «Цмокі» ня могуць выканаць усе прапановы па больш шырокім выкарыстаньні беларускай мовы. Юрый Шакола працягвае:

«Беларускамоўнае напісаньне прозьвішчаў на майках, на жаль, на дадзены момант немагчыма. Клюб выступае адразу ў двух міжнародных спаборніцтвах. Адпаведна, для мінімізацыі выдаткаў і захаваньня рэглямэнтных патрабаваньняў усе надпісы першапачаткова робяцца на ангельскай мове. Паколькі партыі экіпіроўкі вырабляюцца оптам і на ўвесь сэзон, стандартны выгляд джэрсі мае і ў гульнях чэмпіянату Беларусі. Рабіць унікальную форму выключна на матчы плэй-оф нацыянальнага першынства, зь якога „Цмокі“ пачынаюць шлях унутры краіны, не дазваляе абмежаванасьць бюджэту».

Лягічная пазыцыя, але тут можна параіць тое ж самае, што і хакейнаму «Дынама» — выкарыстоўваць беларускую лацінку.

Юрый Шакола дадае: «Мовы прэс-канфэрэнцый таксама прапісаныя ў рэглямэнтах Адзінай лігі ВТБ і фэдэрацыі „ФІБА-Эўропа“. Разам з тым, клюб не абмяжоўвае індывідуальныя зносіны гульцоў і трэнэраў нашай каманды з прэсай на беларускай і іншай мовах — у такіх выпадках дзейнічае прынцып узаемнай дамоўленасьці паміж бакамі».

Цалкам слушна — патрабаваньні рэглямэнтаў трэба выконваць, але і не абмяжоўваць гульцоў і трэнэраў у магчымасьці ўжываць любую з моваў. Вядома, хочацца, каб у гэтым выбары яны абіралі менавіта беларускую.

Наконт беларускамоўнай вэрсіі сайту генэральны дырэктар адзначыў наступнае:

«Беларускамоўная вэрсія сайту пакуль застаецца ў плянах па доўгатэрміновым разьвіцьці клюбу. З аднаго боку, толькі ў студзені створанай прэс-службе пакуль не хапае магутнасьцяў для вырашэньня шматмоўных задач. Зь іншага боку — прыярытэтам клюбу на дадзены момант зьяўляецца прывядзеньне ў аптымальную форму англамоўнай вэрсіі сайту, запатрабаванай фэдэрацыяй „ФІБА-Эўропа“ і Адзінай лігай ВТБ».

Пазыцыя абгрунтаваная, але спадзюся, што ў хуткім часе беларускамоўная вэрсія сайту зьявіцца і ў менскіх цмокаў, бо ўсе іншыя ўдзельнікі міжнародных ліг, дзе гуляе каманда, вэрсіі сайтаў на нацыянальных мовах маюць. Ды і вядзеньне ўсіх сацыяльных сетак па-беларуску паказвае, што прэс-служба павінна з гэтай задачай з годнасьцю справіцца.

Напрыканцы Юрый Шакола падсумоўвае: «Такім чынам, БК „Цмокі“ імплемэнтуе шэраг намаганьняў па папулярызацыі беларускай мовы ў спорце, і будзе імкнуцца і далей ашыцьцяўляць сваю палітыку ў гэтым накірунку ў адпаведнасьці з даўгатэрміновымі маркетынгавымі мэтамі клюбу, умовамі рэглямэнтаў турніраў і магчымасьцямі бюджэту».

Няма сумневаў, што так гэта і будзе. У зьвязку з такой пазытыўнай сытуацыяй БК «Цмокі» нельга не ўзгадаць і яго дырэктара цэнтру эканамічнага разьвіцьця і спартовага маркетынгу, былога гульца баскетбольнай нацыянальнай зборнай Беларусі і проста самага вядомага баскетбаліста краіны, маркетоляга з дыплёмам Вашынгтонскага ўнівэрсытэту Аляксандра Куля — яго імпэтам і намаганьнямі былы БК «Мінск-2006» стаў беларускім нацыянальна арыентаваным БК «Цмокі-Мінск». Што казаць — таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Дарэчы, у гэтым годзе Аляксандар Куль быў у журы Фэстывалю беларускамоўнай рэклямы і камунікацыі AD.NAK — 2014, што яшчэ раз падкрэсьлівае, што клюб зацікаўлены ў пашырэньні выкарыстаньня беларускай мовы ў беларускім спорце і рэкляме.

Пры некаторых недахопах у выкарыстаньні беларускай мовы ў ХК «Дынама» і, у меншай ступені, ў БК «Цмокі», можна казаць, што беларуская мова і культура для іх сапраўды прыярытэтны кірунак і прынцыповая пазыцыя. Беларускія «Зубры» і «Цмокі» годна прадстаўляюць Беларусь за межамі, культывуюць беларускую культуру і зьяўляюцца арыентырамі для беларускіх баскетбольных і хакейных клюбаў. Як кажуць у «Дынама» і ня толькі — «Верым! Можам! Пераможам!»

Ня толькі хакеем і баскетболам прадстаўлена Беларусь на міжнароднай арэне. У гэтым сэзоне краіна прадстаўлена і ў футбольнай Лізе чэмпіёнаў і Лізе Эўропы, а таксама гандбольнай Лізе чэмпіёнаў. Як зь беларускай мовай у гэтых спартовых амбасадараў на эўрапейскай арэне? Аб гэтым у наступных публікацыях.

*Ігар Случак*

# Банда «пажарнікаў» у Гомелі здзейсніла новыя злачынствы

***Члены злачыннай групоўкі адседзелі і папаліся на новых злачынствах.***

Працэс у 2010 г. над лідарамі групоўкі: Алег Чыркоў (З'ян), Генадзь Бярэзін (Пажарнік), Вячаслаў Ліцэнштэйн (Ліцэн).

У 1990-х групоўка «крышавала» ўвесь Гомель. Пасля іх накрылі сілавікі. І ў сярэдзіне 2000-х адправілі за краты. Праўда, не ўсім адмералі вялікія тэрміны. Хто атрымаў ад 3 да 8 гадоў, паспелі адляжаць бакі на нарах і выйсці на свабоду. З прагай дзейнасці — злачыннай. За гэтую восень былыя «пажарнікі» паспелі ўжо тройчы адзначыцца ў крымінальных хроніках.

20 верасня на адным з лецішчаў пад Гомелем прагучаў выбух. Пазней следчыя высветлілі, што такім чынам гараджанін хацеў правучыць былога кампаньёна па бізнэсе — адбіць у яго грошы.

Крымінальную справу завялі па «хуліганцы». 42-гадовы падазраваны арыштаваны.

Прыператрусе ў яго доме знайшлі пісталет-кулямёт «Agram-2000» з глушыцелем і патронамі. А такі арсенал дадаў да багажу яшчэ адну справу — па незаконных дзеяннях з агнястрэльнай зброяй.

Другі падзельнік па групоўцы пасля вызвалення таксама вярнуўся да ранейшага: скалаціў групу з дзевяці чалавек і «крышаваў» гандляроў спайсамі.

Асноўныя фігуранты справы — маладыя людзі 22—24 гадоў. Схема была простая: пакунак псіхатропнага рэчыва прадавалі за 200 тысяч рублёў, з якіх чвэрць атрымліваў гандляр, астатняе асядала ў руках групоўкі. З аднаго такога гандляра «крыша» атрымлівала каля 10 мільёнаў у месяц. А хто не пагаджаўся так працаваць — не цацкаліся: у традыцыях 90-х вывозілі ў лес і прыстаўлялі да скроні пісталет. Тут ужо не пагадзіцца было складана. Але і іх справа ўжо накіравана ў суд.

Яшчэ адзін «пажарнік» адзначыўся ў Рэчыцы, у складзе арганізаванай групоўкі, якая займалася махлярствам.




Крымінальная справа толькі рыхтуецца да перадачы ў суд, але ўжо вядомыя некаторыя акалічнасці. Жыхар Рэчыцы займаўся турыстычным бізнэсам і вырашыў набыць новы аўтобус. Выпадковыя знаёмыя паабяцалі дапамогу і пераканалі камерсанта перадаць ім $22 тысячы. Неўзабаве прадпрымальніку паведамілі, што тых грошай для добрага аўтобуса не хапае. Прапанавалі ў пазыку $10 тысяч. Той пагадзіўся, а ўгоду замацавалі натарыяльна. Але ні грошай, ні аўтобуса бізнэсовец не ўбачыў. Пасля ўжо пачаўся пошук махляроў, затрымалі іх па дарозе ў Расію. Меркавалі там адсядзецца. Балазе, месцы для іх знаёмыя: акурат на абшарах Расіі і вылоўлівалі падчас расследавання ў пачатку двухтысячных «пажарнікаў».

* * *

«Пажарнікі» — самае буйное ў сучаснай гісторыі Гомеля крымінальнае фарміраванне, якое ў сярэдзіне 1990-х налічвала да 100 маладых людзей ва ўзросце ад 20 да 25 гадоў. Па матэрыялах абвінавачання, арганізацыю ўзначалілі трое жыхароў абласнога цэнтра (З'ян, Ліцэн, Пажарнік). На працягу дзесяці гадоў яны займаліся рэкетам прадпрымальнікаў, кантралявалі прастытутак, валютчыкаў, таксістаў. На іх рахунку каля ста цяжкіх злачынстваў, у тым ліку згвалтаванні, рабаванні, махлярства, падпал.

Суды над «пажарнікамі» праходзілі ў Гомелі ў 2004—2010. У 2010 да 17 і 19 гадоў пазбаўлення волі былі прысуджаныя лідары групы, якіх затрымалі ў Маскве. Яшчэ каля паўсотні чалавек пасадзілі на тэрміны ад 3 да 16 гадоў.

Маштабная крымінальная дзейнасць «пажарнікаў» стала магчымай пры бяздзейнасці кіраўнікоў праваахоўных органаў вобласці.

Некаторыя з супрацоўнікаў пракуратуры і УУС стаялі на забеспячэнні ў бандытаў. Напрыклад, начальнік крымінальнага вышуку быў асуджаны потым да 18 гадоў пазбаўлення волі, яшчэ некаторыя аператыўнікі — да меншых тэрмінаў.

*Юлія Шымкевіч, Гомель*

# Каб прыцягнуць увагу ўладаў да праблемы калодзежаў, вясковец «замініраваў» адзін з іх

***Суд Гомельскага раёна 6 кастрычніка даў жыхару адной з вёсак штраф у памеры 12 млн рублёў (80 базавых велічынь) за ілжывае паведамленне аб небяспецы (артыкул 340 КК).***

***Як паведаміў выканаўца абавязкаў памочніка пракурора Гомельскага раёна Раман Камянкоў, вясковец 1965 нараджэння «замініраваў» калодзеж, спрабуючы такім чынам прыцягнуць увагу ўладаў да праблемы крыніц вады ў вёсцы.***

22 ліпеня жыхар вёскі знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. Ён убачыў, што камунальныя службы рамантуюць адзін з калодзежаў, і пацікавіўся: калі ж чарга дойдзе да яго студні? Рабочыя адказалі, што ніколі: толькі тры студні будуць адрамантаваныя, а астатнія - дэмантаваныя, то бок засыпаныя, бо яны непрыдатныя.




Вясковец знерваваўся, перажываючы за сваю маці-інваліда, якой прыйдзецца далёка хадзіць за вадой, і патэлефанаваў у сельскі савет. Там, верагодна, яго скаргу не задаволілі, і ён патэлефанаваў у райвыканкам. У інстанцыі параілі вырашаць праблему на месцы.

Тады мужчына патэлефанаваў па 101 і паведаміў, што студня замініраваная. Прычым назваў сваё прозвішча і адрас. Сам жа сеў ля калодзежа ў чаканні прыбыцця спецыяльных службаў — групы размініравання, міліцыі і выратавальнікаў. На месцы супрацоўнікам розных органаў вясковец патлумачыў сваю праблему.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

# Зніклую без вестак 15-гадовую гамяльчанку знайшлі ў доме цыганскай сям'і

***Супрацоўнікі міліцыі 2 кастрычніка знайшлі 15-гадовую гамяльчанку, якая лічылася без вестак зніклай з 7 верасня.***

У той дзень дзяўчына пайшла з дому сваёй сястры, старонкі ў сацсетках выдаліла, а тэлефон разбіла. Да пошукаў падлетка падключыўся гомельскі пошукава-выратавальны атрад «Сімуран», які распаўсюдзіў арыентоўкі дзяўчыны.

Па тэлефоне, паказаным у арыентоўцы, у атрад патэлефанавала жанчына і сказала, што бачыла падобную дзяўчыну ў пасёлку Прыбар Гомельскага раёна. Інфармацыю перадалі міліцыі, пасля чаго аператыўнікі выехалі ў пасёлак, каб апытаць мясцовых жыхароў, паведамілі БелаПАН у атрадзе «Сімуран».

У выніку дзяўчыну знайшлі ў доме цыганоў. Аб матывах ўцёкаў з дому падлетак пакуль не распавядае, міліцыя праводзіць разбіральніцтва.

*БелаПАН*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Кастрычнік 2014»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2013"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva
**Вольга Пыхава:** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA